Чытайце: Такое не забываецца · Добрыя яблыкі не падаюць з неба · Мая кар'ера


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 26 (435) | ГОД IX | 28 ЧЭРВЕНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


# ВЯЛІКАЯ РЭЧ

Корпаючыся ў матэрыялах на тэму арганізаваных зараз масава клубаў прэсы і кніжкі «Рух», я заўважыла адзін знамянальны факт. Вось ён: 70% усіх газет у краіне пападае ў рукі чытача з пунктаў продажу «Рух» (клубы і кіёскі), 11% — з падпіскі «Руху», (такую падпіску можа наладзіць кожны кіёск «Руху»), і толькі 19% — чытаем з падпіскі праз пошту.

Пастараемся прачытаць, што крыецца за гэтымі трыма лічбамі.

Вядома агульна, што клубаў і кіёскаў «Руху» яшчэ паўгода таму было многа ў гарадах і дзе-ні-дзе на вёсках, але такіх, якія мы залічваем да мястэчкаў. Значыць, упрошчваючы справу можна сказаць, што 30—40% гарадскога насельніцтва паглынала 70% усіх газет. Так як падпіска праз «Рух» была магчыма таксама толькі ў гарадах, то працэнт чытаных тут газет узрасце: 70+11=81.

Практычна адзінай магчымасцю, каб газета дайшла на вёску асталавалася паштовая падпіска. Так яно і было.

І на гэтых, можа даўгаватых крыху лагічна-матэматычных вылічэннях хачу будаваць свой тэзіс аб чытальніцкай рэвалюцыі ў вёсцы, магчымай дзякуючы клубам і кіёскам прэсы «Рух».

Аб клубах гэтых многа гаворыцца. Здаецца аднак, што навыварат. Проста няясна выкладаецца справа людзям, якім прыпадносяцца клубы.

Клубы прэсы і кніжкі «Рух» — гэта вялікая рэч і з вялікай перспектывай. Але ў нас, калі мова аб клубах, дык абавязкова аб каве, мяккіх крэслах. А іншае (і сапраўды найважнейшае) памінаецца. Менавіта памінаецца факт, што клубы прэсы — гэта клубы прэсы. Інтэнцыя тых, хто дае грошы на такія клубы — гэта пашырэнне чытальніцтва газет і папулярных наштодзень кніжак. Гэта магчымасць доступу да кожнай газеты (клубы атрымліваюць шырокі каталог газет, аб якіх да часу ўзнікнення клуба ніхто не чуў). Гэта магчымасць атрымаць газету хутка (ужо ў 9—10 гадзін раніцы клубы атрымліваюць свежыя газеты). Гэта ўрэшце сітуацыя, калі газета ідзе сама да людзей, сама шукае кантактаў, сама напрашваецца. Вось што самае важнае ў клубах. Не кава, хоць калі ласка, і не варта сапраўды спрачацца (што цяпер вельмі часта робім) ці вясковы чалавек можа піць каву ці не, ці трэба яго вучыць гэтаму ці не.

Я энтузіяст клубаў прэсы на вёсцы і вельмі здзіўляюся людзям, асабліва дзеячам культуры, якія баяцца клубаў, баяцца грошай. 40 тысяч злотых (столькі ў сярэднім каштуе арганізаваць адзін клуб) на вуліцы не валяюцца. Адкуль жа тады ў нас такое дзіўнае становішча да справы клубаў — непрыязнае, падазронае. Расказвалі мне смешны і сумны разам, бо сапраўдны анекдот: выслухалі культурныя ўраднікі слоў аб клубах і, зморшчыўшы мудра лоб, пытаюць: а скажыце, чаму вам так залежыць, каб у нас былі клубы, што за гэтым скрываецца? Прабачце, пытанием на пытанне: каму — «вам»? Выяўляю сакрэт — Беластоцкае прадпрыемства прэсы «Рух» дэфіцытовае, але ў іншых ваяводствах — не. Мы цяпер бяром грошы, выпрацаваныя, напрыклад,

(Працяг на стар. 4)

МАРК СМАГАРОВІЧ

## СЫНОК

Надзяваць пратэзы памагае
Раніцою мне сынок заўжды.
Усяго пяць год мой хлопчык мае,
Пойдзе ў школу ён праз два гады.
Толькі б не было вайны ніколі,
Будзе шчаслівейшым за мяне,
Вырасціць такі ўраджай на полі,
Што не бачыў нават я і ў сне.
Хай сабе ён будзе інжынерам,
Хай сабе паступіць на завод, —
Стане ў шэсцьдзесят пенсіянерам,
А не так, як я... у дваццаць год.



Нам па 18 год... фота М. Тарасевіча Белавежа

# ПАД БЕЛАВЕЖСКІМІ СОСНАМІ

Напэўна можна разважаць, ці бібліятэкарскія семінары для кіраўнікоў грамадскіх бібліятэк і паветовых інструктараў, працуючых у нацыянальных асяроддзях, апраўдваюць надзеі арганізатара. Але семінары такія сталі ўжо традыцыяй, а традыцыя мае ў нас свае правы і сваю сілу.

Ваяводская бібліятэка, якая арганізуе і фінансуе (у гэтым годзе супольна з ТППР) семінары, самым такім сваім падыходам да нацыянальнага чытальніцтва робіць вялікую работу, выказвае вялікі клопат у папулярызацыі беларускай, украінскай, літоўскай кніжкі на Беласточчыне. (Іншыя ваяводствы, дзе жывуць нацыянальныя меншасці, такіх семінараў не праводзяць). З папрокам можна выступіць аднак да бібліятэкараў. Іх пасіўнасць (вывад з семінара) — відавочная. Праўда, інвенцыя, неспакойны характар дырэктара Ваяв. Бібліятэкі Малеўскага і на апошнім семінары ў Белавежы 8—9 чэрвеня змусілі ўдзельнікаў думаць, гаварыць і... сароміцца. Сароміцца сваёй незнаёмасці спраў бібліятэкарскай працы. Выявілася неразуменне некаторымі бібліятэкарамі іх заданняў.

Вось дыялаг з кіраўніком бібліятэкі ў Нурцы - станцыі, справакаваны дырэктарам Малеўскім (падаю прыблізна).

Дырэктар: — У вас як чытаюць беларускія кніжкі?

Бібліятэкар: — Мала.

Дыр.: — Чаму мала?

Бібл.: — Не цікавяцца.

Дыр.: — А як вы папулярызуеце свае кніжкі?

Бібл.: — Выстаўкі.

Дыр.: — Якое ў вас насельніцтва?

Бібл.: — У Нурцы мала беларусаў, а ў суседніх вёсках... ці я ведаю, яны не прызнаюцца.

Кожная кніжка патрабуе рэкламы. Добрай, моцнай, цікавай рэкламы бібліятэкара. Беларуская кніжка ў гэтым не з'яўляецца выключэннем. Нельга адсутнасці зацікаўлення кніжкай тлумачыць толькі непрызнаваннем да нацыянальнасці. Гэта гучыць не па-нашаму, не па-сучаснаму.

(Працяг на стар. 4)



БЕЛАСТОК. Фрагмент пасёлка Тувіма на Антанюку. Фота. Г. Рагазінскага





ШЛЯХІ РАЗВІЦЦЯ сельскай гаспадаркі.
С. ЯНОВІЧ: У бліску нафтавай лямпы.
С. РАМАНЧУК: Чалавек.
ДЗЯДЗЬКА ЛЯВОНЬ: Грыгораўцаўскія матывы.

 

## „...за ўпартую штодзённую працу"

Закрываючы ÏV З'езд Партыі, Уладзіслаў Гамулка сфармуліраваў заклік, які павінен стаць лозунгам нашых штодзённых спраў на бліжэйшыя гады:

«А цяпер за працу, таварышы, за ўпартую штодзённую працу, за пераўтварэнне пастаноў ÏV З'езда Партыі ў рэчаіснасць, за падняцце на вышэйшы ўзровень прыгожага сацыялістычнага гмаху нашай айчыны — Народнай Польшчы».

Што гэта за праца? Як канкрэтна павінна выглядаць штодзённая дзейнасць членаў партыі і ўсіх людзей, якія імкнуцца да ўсебаковага развіцця нашай краіны?

Адказы на гэтыя пытанні даюць багатыя матэрыялы ÏV З'езда — справаздача ЦК, дыскусія і пастановы. Усе гэтыя дакументы пераважна датычаць спраў гаспадаркі, напрамкаў развіцця нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі ў перыяд 1966—70 гадоў. На гэты перыяд плануюцца капіталаўкладанні на суму каля 840 млн. зл., гэта амаль столькі, як за апошнія 15 год. Такім чынам наступная пяцігодка будзе перыядам індустрыялізацыі і аднаўлення гаспадаркі краіны. Цяжка сёння яшчэ сказаць, колькі ўзнікне новых фабрык, але несумненна будзе іх нямала. Гэта будуць пераважна прадпрыемствы электрамеханічнай і хімічнай прамысловасцей. Бо гэтыя дзве галіны прамысловасці сёння вырашаюць аб сучаснасці гаспадаркі кожнай краіны. У сувязі з гэтым, напрыклад, вартасць прадукцыі хімічнай прамысловасці павінна ўзрасці за пяцігодку ў два разы.

У пастанове сцвярджаецца, напрыклад, што прадукцыя азотных угнаенняў павінна ўзрасці да 1 млн. 180 тыс. тон, а фосфарных — да больш 700 тыс. тон у год. У выніку гэтага ўзросту ў 1970 годзе выкарыстанне штучных угнаенняў на кожны гектар павінна быць у 3 разы большае, чым у мінулым годзе. Пастанова прадугледжвае ўзрост валавой сельскагаспадарчай прадукцыі за будучую пяцігодку на 14—15%, прычым раслінная прадукцыя павінна ўзрастаць хутчэй, чым жывёльная, што дапаможа ліквідаваць імпарт збожжа і кармоў.

Яшчэ не раз на старонках нашай газеты будзем падрабязна абмяркоўваць праблемы рэалізацыі пастановы партыі ў справе наступнай пяцігодкі. Сёння толькі назавем некалькі лікаў, якія акрэсліваюць патэнцыял Польшчы ў 1970 годзе. Напрыклад, у гэтым годзе мы павінны даць 64 мільярды квг электраэнергіі (у 1963 годзе — 37 млрд кв). Каменнага вугалю ў 1970 годзе мы павінны здабыць 126—128 млн тон., г. зн. на 13—15 млн тон больш, чым у мінулым годзе. Прадукцыя сталі ў 1970 годзе павінна дасягнуць 11 млн тон, г. зн. на 3 млн тон больш, чым у мінулым годзе. Хопіць аб ліках. Я прывёў іх толькі для таго, каб паказаць скачок, які мы павінны зрабіць за пяцігодку. Адсюль і заклік тав. Уладзіслава Гамулкі, сказаны на заканчэнне з'езда, набірае значэння наказу, сэнс якога кожны мусіць усвядоміць сабе. Накрэсліваючы палітычную і гаспадарчую праграму дзейнасці, ÏV З'езд Партыі вызначыў такія напрамкі ў развіцці прамысловасці, якія (пасля іх выканання) паставяць Польшчу сярод найбольш развітых краін. Расшырэнне гаспадаркі дасць працу дадаткова яшчэ паўтара мільёнам маладых людзей, у большасці тым, што нарадзіліся ўжо ў Народнай Польшчы. Такім чынам гэта будзе пяцігодка маладога пакалення. Таму верым, што вопыт старых дзеячоў спалучаны з маладзёжным запалам гэтага пакалення дасць гарантыю пераўтварэння ў рэчаіснасць пастаноў ÏV З'езда Партыі.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# УЛАДЗІСЛАЎ ГАМУЛКА — Ï САКРАТАР ЦК ПАРП

Шэсць дзён — ад 15 па 20 чэрвеня ўключна — адбываўся ÏV З'езд Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі, які выпрацаваў напрамкі развіцця польскай краіны ў найбліжэйшыя гады. 1630 дэлегатаў, запрошаныя госці, прадстаўнікі ÏÏ братніх партый Еўропы, польскія і заграНічныя журналісты — усе з вялікім зацікаўленнем выслухалі абшырны справаздачы даклад Цэнтральнага Камітэта ПАРП, які прачытаў Уладзіслаў Гамулка. У гэтым дакладзе шмат месца было прызначана ацэнцы цяперашняй нашай гаспадаркі і планам на наступнае пяцігоддзе (1966—1970). Многа увагі таксама было прысвечана аналізу ўнутраных праблем Народнай Польшчы і міжнароднай сітуацыі з асаблівым падкрэсленнем справы адзінства міжнароднага рабочага руху.



Ï сакратар ЦК ПАРП Уладзіслаў Гамулка.

З'езд выбраў Цэнтральны Камітэт у складзе 85 членаў і 78 намеснікаў членаў і цэнтральную рэвізійную камісію ў складзе 25 асоб. З'езд зацвердзіў папраўкі да Статута і прыняў пастанову.

**НА ПЕРШЫМ ПЛЕНУМЕ НОВАВЫБРАНЫ ЦК ПАРП, ЯКІ САБРАЎСЯ Ў ЧАС ПЕРАПЫНКУ Ў ПРАЦЫ З'ЕЗДА, ЗНОЎ ВЫБРАЎ ПЕРШЫМ САКРАТАРОМ ЦК УЛАДЗІСЛАВА ГАМУЛКУ.**

На пленуме было таксама выбрана Палітбюро ЦК ў наступным складзе: Юзэф Цыранкевіч, Эдвард Герэк, Уладзіслаў Гамулка, Стэфан Ендрыхоўскі, Зэнон Клішка, Ігнацы Лёга-Савінскі, Эдвард Охаб, Адам Рапацкі, Мар'ян Спыхальскі, Эўгеніюш Шыр, Францішак Ванёлка і Аляксандр Завадскі.

Цэнтральны Камітэт прызнаў патрэбным паклікаць намеснікаў членаў Палітбюро і выбраў для выконвання гэтых функцый Мечыслава Ягельскага, Пятра Ярашэвіча і Рышарда Стшэлецкага.

У склад Сакратарыяту ЦК выбраны Баляслаў Яшчук, Зэнон Клішка, Эдвард Охаб, Артур Старэвіч, Рышард Стшэлецкі і Юзэф Тэйхма.

Усе члены Палітбюро, намеснікі членаў Палітбюро і члены Сакратарыяту былі выбраны адзінагалосна.

СПОРТ

## МЯЧ КОЦІЦЦА ПА СВЕЦЕ

Яшчэ не адгрымела эха астатняга фіналу на «Кубак Еўропы», які мы аглядалі па тэлебачанню, а ўжо майстры футбола розных краін гавораць аб новым крузе.

Цяпер лаўры пераможцы збірае «Інтэр» з Мілану, які нядаўна перамог вядомую каманду мадрыдскага «Рэалю». Гэтая дружына атрымала нямала прапаноў на таварыскія сустрэчы. Вядома, пад увагу бяруцца велізарныя сумы грошай, якія гаспадары будучых сустрэч ахвяруюць на гэтую мэту.

Першым сур'ёзным экзаменам для італьянцаў будзе сустрэча з «Сантасам» — неафіцыяльным рэкардсменам свету. Па гэтай прычыне італьянцы некалькі дзён назад прадоўжылі кантракт на адзін год з Герэрай. Лічаць, што гэты дарагі трэнер (гадавая зарплата без прэміі складае 120 тысяч долараў) хутка верне ўкладзены ў яго капітал. Дырэктар «Інтэрна» ўмее дбаць аб інтарэсах свайго клуба. У Вене перад фінальным спатканнем на прэс — канферэнцыі ўсе яе ўдзельнікі атрымалі ад багатага італьянца па гадзінніку. У замен за гэта дырэктар папрасіў спапулярызаваць яго каманду і пастарацца, каб аўстрыйцы балелі за «Інтэр». Калі так будзе, дык журналісты на яго кошт паедуць на матч з «Сантасам» у Бразілію.

У турніры на «Кубак Еўропы» Польшчу прадстаўляць будзе «Гурнік» (Забжэ). Футбалісты «Гурніка» у мінулым годзе зарабілі 20 тысяч долараў, якія перадалі ў дзяржаўную касу. Даход клуба ў залатоўках складае паўтара мільёна злотых. Вось гэта інтарэс! Спадзяемся, што бягучы год не будзе для гурнікаўцаў горшы. Пасля перамогі ў Вене над лепшай камандай Аўстрыі забжане атрымалі вельмі добрыя рэцэнзіі. Асабліва хвалілі Шалтысіка. Яго стараліся перацягнуць да сябе іншыя заходнія клубы. Аднак паляк не прыняў прапаноў.

Вось так футбольны мяч без перапынку коціцца па свеце і напэўна яшчэ не адну хвіліну эмоцыі дасць яго балельшчыкам.

Л. Тарасевіч

УСПАМІНЫ КАМУНІСТАЎ

## Уладзімір Станкевіч

# АДЗІН З МНОГІХ

26)

Канцэнтрацыйны лагер у Картуз-Бярэзе ўтварылі ў чэрвені 1934 года паводле ўзору гітлераўскіх лагераў. Заданне канцэнтрацыйнага лагера было ў тым, каб, заламаўшы вязня псіхічна пры дапамозе катаванняў, здзекаў, голаду і паніжэння, змусіць яго падпісаць дэкларацыю аб адмове ад камуністычных поглядаў і аб дапамозе ў барацьбе з камуністычным рухам.

Але можна з гонарам сцвердзіць, што гэта фашыстам удавалася вельмі рэдка і пераважна з людзьмі, якія не былі або былі вельмі слаба і прыпадкова звязаны з камуністычным рухам. Калі ў першыя дні, у першы найбольш уражліва перажываемы перыяд не ўдавалася заламаць, дык потым гэта зрабіць было ўжо немагчыма.

Спачатку ў Бярэзе чалавек адчуваў сябе, як цкаваны звер. Здавалася, што кожны пакінуты на свой лёс. Але потым пачынаў усё больш адчуваць існаванне арганізацыі, яе апеку і дапамогу. Хоць арганізацыя была невідочная, абсалютна законспіраваная, але яна была, жыла і дапамагала вытрымаць катаванні, здзекі і паніжэнне.

Ніхто з вязняў не ведаў, як доўга будзе ў Бярэзе. Ехаў сюды з пастановай ваяводы на тры месяцы, але ў канцы трох месяцаў калі не выпусцілі, дык паведамлялі, што «пан ваявода» прадоўжыў побыт яшчэ на тры месяцы. Можна было прабыць тры месяцы, паўгода, а нават і больш двух гадоў. Калі я прыбыў у Бярэзу ў чэрвені 1936 года, застаў там двух таварышоў — прафесара Мушынскага і доктара Рудэля, якія былі ўжо ад чэрвеня 1934 года і яны засталіся яшчэ пасля майго выхаду.

У Картуз - Бярэзе здарыліся толькі два выпадкі смерці вязняў. У маі 1936 года страшэнна скатаваны студэнт Германіцкі і беларускі селянін Мазырка былі кінуты ў карцэр, дзе ноччу памерлі. Звычайна пільнавалі, каб пміралі не ў Бярэзе, а дома. Калі доктар сцвярджаў, што камусь заставалася нядоўга жыць, дык выпускалі паміраць дахаты.

Іваноўскага і Эйштэйна звольнілі з Бярэзы пасля трох месяцаў, а мяне і Пятрэйку — пасля шасці месяцаў, у канцы снежня 1936 года. Выходзячы з Бярэзы, кожны вязень павінен быў падпісаць, што не будзе расказваць аб тым, што дзеецца ў лагеры.

Праз некалькі дзён пасля нашага прыезду ў Гродна на прывітанне нас таварышы арганізавалі банкет, на якім прысутнічала больш ста чалавек, прадстаўнікі розных прафсаюзных арганізацый. З прывітальнымі прамовамі выступілі прадстаўнікі нашай партыі, ППС і Бунду. Я падзякаваў працоўным Гродна за барацьбу за вызваленне нас з Картуз-Бярэзы і... расказаў аб усім, што выраблялюць там з вязнямі фашысты. Паліцыя мела на банкеце свайго чалавека, бо потым спаткаў мяне шпік і сказаў, што многа непатрэбнага гавару.

Я, выйшаўшы з Бярэзы, далей працаваў сакратаром секцыі беспрацоўных пры акружной камісіі прафсаюзаў. Але гэта ўладам не падабалася, бо ў студзені 1937 года паклікаў мяне павятовы стараста і заявіў, што я павінен выехаць з Гродна. На маё пытанне «куды?» стараста адказаў:

— Польшча доўгая і шырокая.

— Але не для мяне, — адказаў я. — Вам вядома, што ў Польшчы вялікае беспрацоўе, а для пазбаўленага правоў магчымасці да працы моцна звужаюцца. А ў Гродне памагаюць мне жыць рабочыя.

— Вось для дабра гродзенскіх рабочых вы павінны выехаць з Гродна, бо інакш трэба будзе вярнуцца ў Картуз-Бярэзу, — заявіў стараста.

— А я станоўча вам заяўляю, што нідзе з Гродна не паеду. А Бярэзу знаю і ёю мяне не пастрашыце, — сказаў я і выйшаў.

За два тыдні, ў лютым, зноў паклікаў мяне стараста і заявіў:

— Другі і апошні раз паведамляю вас, што мусіце выехаць з Гродна.

— А я зноў заяўляю, што нікуды не паеду, — сказаў я яму.

У кастрычніку 1936 года цяжка захварэў старшыня секцыі беспрацоўных Антон Мат'яш, і таварышы адправілі яго ў Вільна ў клініку на лячэнне. У канцы лютага 1937 года клініка паведаміла, што стан здароўя Мат'яша безнадзейны. Мы вырашылі прывезці яго ў Гродна. З гэтай мэтай я паехаў у Вільна і выпісаў хворага.

У Гродне таварышы чакалі нас на станцыі з машынай хуткай дапамогі. Яны адразу паведамілі, што паліцыя шукае мяне па ўсяму гораду. Я аднак паехаў з Антонам у шпіталь, а потым толькі пайшоў да таварыша Паўла Горбача, у якога скрываўся амаль цэлы месяц, а потым, выконваючы загад партыі, выехаў у Варшаву ў распараджэнне Цэнтральнай Камісіі Прафсаюзаў, кіраўнікі якой спачатку мелі намер паслаць мяне на прафсаюзную працу ў Радом, але потым раздумалі і запрапанавалі працу інструктара ў прафсаюзе сельскагаспадарчых рабочых на павет Ліпна ў Паморскім ваяводстве. Я згадзіўся і паехаў.



 

 




# ТАКОЕ НЕ ЗАБЫВАЕЦЦА

Прайшло 20 год з таго часу, як адгрымелі жорсткія баі за вызваленне Савецкай Беларусі ад нямецка - фашысцкіх захопнікаў. Беларускі народ рыхтуецца на пачатку ліпеня адзначыць гэту знамянальную дату. Па ўсёй рэспубліцы зараз адбываюцца сходы працоўных, сустрэчы моладзі з воінамі Савецкай Арміі, быўшымі партызанамі і падпольшчыкамі, арганізуюцца турысцкія паходы па партызанскіх сцяжынках і месцах баёў. Дакладна вывучаецца гісторыя партызанскіх атрадаў, падпольных партыйных і камсамольскіх арганізацый.

Нядаўна стала вядома аб мужнай барацьбе яшчэ адной падпольнай камсамольскай арганізацыі, якая дзейнічала ў гады вайны на Беларусі ў раёне буйнейшай у тыя часы электрастанцыі «БелДРЭС» і тарфянога завода «Асінторф».

Чэрвень 1941 года. Прадпрыемствы, дзе працавала больш 10 тысяч чалавек, замерлі. Абсталяванне часткова было вывезена ўглыб краіны, а часткова знішчана. Мужчыны пайшлі на фронт. Немцы занялі Оршу. Фронт адкаціўся далёка на Усход. У рабочых пасёлках насцярожанасць: Што гэта будзе?

...Будзе «новы парадак», — растлумачыў насельніцтву прыбыўшы з групай салдат будучы фашысцкі камендант «Асінторфу». У той самы дзень на вачах сагнаных жанчын, дзяцей і падросткаў была расстраляна мясцовая настаўніца Анна Лотава.

Пякучым болем адгукнуліся ў сэрцах юнакоў стрэлы, усмерціўшыя іх любімую настаўніцу, старэйшага сябра і таварыша. Тыя ж стрэлы і запалілі нязгасны агонь нянавісці да фашыстаў.

Увечары сабраліся на тайны камсамольскі сход і прынялі кароткую рэзалюцыю: «Смерць нямецкім акупантам!»...

29 ліпеня 1941 года Станіслаў Шмуглеўскі, Міхась Цяленчанка і Пётр Клімовіч падпільнавалі арганізатараў «новага парадку». «Смерць за смерць!» — прагучала каманда сакратара падпольнай камсамольскай арганізацыі С. Шмуглеўскага і цэльная чарга скасіла начальніка паліцыі і бургамістра «Асінторфу».

А на наступны дзень пачаліся арышты. Сярод арыштаваных былі браты Міхась і Яўген Цяленчанкі. У іх на паддашшы знайшлі ручны кулямёт.

Пасля катаванняў у гестапа братоў расстралялі на вачах іх сяброў. Трагічная гібель адважных юнакоў многаму навучыла іх сяброў па падполлю. Кожны зразумеў, што вораг вопытны, хітры і жорсткі. Барацьбу з ім трэба весці ўмела і эфектыўна.

Пазней з дапамогай палітрука Савецкай Арміі Яўгеня Вільсоўскага, а затым легендарнага камандзіра партызанскай брыгады Героя Савецкага Саюза Канстанціна Заслонава камсамольцы-падпольшчыкі распрацавалі сістэму канспірацыі і дзейнічалі згодна з загадамі камбрыга Заслонава і камандвання 16 смаленскай партызанскай брыгады.

У склад падпольнай арганізацыі ўваходзіла 50 юнакоў і дзяўчат, у асноўным гэта былі вучні 9—10 класаў і рабочыя тарфянога завода. Спачатку падпольшчыкі збіралі зброю і боепрыпасы, а таксама стараліся стрымаць аднаўленне завода: падпальвалі склады з палівам, ламалі і псавалі абсталяванне і машыны, вялі агітацыю сярод насельніцтва і ваеннапалонных, якіх немцы прыгналі на распрацоўку тарфяных кар'ераў.

У лютым 1942 года камсамольцы падрыхтавалі пабег вялікай групы ваеннапалонных. Усе яны атрымалі харчы, адзежу, былі узброены з запасаў «камсамольскіх складоў зброі» і перапраўлены ў партызанскі атрад.

У сакавіку 1942 года падпольшчыкі падпалілі памяшканне, дзе спынілася на адпачынак недабітая пад Масквой воінская часць.

Летам 1942 года фашысты арганізавалі ў раёне «Асінторфа» лагер савецкіх ваеннапалонных, якіх стараліся перацягнуць на свой бок. Некаторыя палонныя, бароняччыся ад галоднай смерці, давалі згоду на «супрацоўніцтва» з немцамі, атрымлівалі адзежу, ежу, зброю і... ішлі ў партызаны.

Асноўная праца ў гэтым была накладзена на групу дзяўчат, якія праявілі выключную адвагу і спрыт, выконваючы гэтае заданне. Дастаткова было памыліцца ў адным чалавеку, нарвацца на здрадніка, зрабіць адзін неасцярожны крок, як за ім пайшоў бы адразу арышт, а затым — смерць.

У жніўні 1942 года падпольшчыкі падрыхтавалі пабег 117 савецкіх ваеннапалонных, якія, захапіўшы 50 нямецкіх кулямётаў і іншую зброю, далучыліся да партызан.

У лютым 1943 года падпольшчыкі пры дапамозе ваеннапалонных Бабылёва, Казанцава і Ярмоліна сфармавалі з ваеннапалонных «воінскую часць», атрымалі зброю і вывелі яе ў партызанскую зону. Адыходзячы, патрыёты замініравалі нямецкія склады з боепрыпасамі. У выніку выбуху было забіта каля 40 нямецкіх салдат і два палкоўнікі.



Фрагмент цэха дызельных матораў Мінскага маторнага завода.

На пачатку 1943 года камсамольцы правялі серыю дыверсій: спалілі чыгуначны мост, склад з боепрыпасамі, пачалі рыхтаваць узрыў на электрастанцыі «БелДРЭС».

15 лютага на «Асінторф» прыехаў спецыяльны ўпаўнаважаны Гітлера барон фон Шпаўке. Пад яго наглядам пачалася будова абаронных аб'ектаў.

Аб усіх работах, руху войск, настроях у лагеры ваеннапалонных падпольшчыкі паведамлялі 16 Смаленскую партызанскую брыгаду. Каб мець лепшую крыніцу інфармацый, падпольшчыкі накіравалі перакладчыкам у штаб Шпаўке камсамольца Мікалая Вялікасельскага.

У сакавіку 1943 года Мікалай паведаміў: Шпаўке едзе аглядаць электрастанцыю. Партызаны (быўшыя ваеннапалонныя) наперад захопліваюць электрастанцыю і робяць засаду на барона. Кароткая бойка і ў выніку яе 50 целаахоўнікаў Шпаўке былі пахаваны на «Асінторфе», а сам Шпаўке ў ацынкаванай трумне вяртаецца ў Берлін.

Пасля гэтага выпадку за камсамольцамі - падпольшчыкамі пачалася ўзмоцненая слежка. Над патрыётамі навісла смяртэльная небяспека.

У верасні 1943 года каля 50 юных мсціўцаў на чале са Станіславам Шмуглеўскім уліліся ў адзін з атрадаў 16 Смаленскай брыгады.

**Аляксандр Петрашкевіч**

# ДАР СССР

**Пасол СССР у Польшчы Аверкій Арыстаў перадаў Міністру Культуры і Мастацтва Тадэушу Галінскаму дар савецкага ўрада — 300 тыс зл. на будову помніка ахвярам гітлерызму ў Асвенціме.**

# ВЯЛІКІ МАСТАК

У Польшчы (Варшаве і Уроцлаве) выступаў у чэрвені дасканалы савецкі піяніст, заслужаны артыст РСФСР, прафесар Дзяржаўнай кансерваторыі імя Чайкоўскага ў Маскве — Якуб Зак. Прыпамінаем, што на III Міжнародным конкурсе ім. Ф. Шапэна ў Варшаве ён атрымаў першую ўзнагароду і маску Шапэна за дасканалае выкананне мазуркаў. Канцэртаваў ужо ў многіх еўрапейскіх краінах. Усюды прымалі яго з вялікім энтузіязмам. У сваёй праграме мае найбольшыя працы Баха, Бетховена, Шапэна, Ліста, Шуберта, Брамса, Рахманінава, Пракоф'ева, Шастаковіча.

Два разы быў у журы шапэнаўскага конкурса (1955 і 1960 г.)

# Малады вучоны

**Кафедра агульнай і грамадскай гігіены Медыцынскай акадэміі ў Лодзі даследуе ўплыў фізічнага, хімічнага і біялагічнага асяроддзя на здароўе чалавека. У працах сваіх канцэнтруецца перад усім на пытанні харчавання. Разам з Інстытутам Маткі і Дзіцяці апрацавала правілы кармлення пованароджаных. Кіраўніком кафедры з'яўляецца малады вучоны др Генрых Рафальскі — постаць надта папулярная ў Лодзі, вядомы народны дзеяч, член цэнтральных улад ЗСЛЬ**

# БЕЛАСТОЦКІ КАЎЧЭГ САТЫРЫ



На здымку: (злева) Вальдэмар Вінтэр, Януш Вільман і Гжэгаж Варпо ў песенцы «Поля зелёнэ».

Год таму невялікая група студэнтаў нашай Медыцынскай акадэміі пачала канструяваць свой каўчэг. «Каўчэгам Медыка» (у арыгінале «Арка Медыка») называецца цяпер студэнцкі тэатр сатыры. «Беластоцкі студэнцкі тэатр сатыры». Кожнае слова ў гэтай назве важнае і пацяшальнае. Што сатыры, што беластоцкі, што студэнцкі. (Студэнты значна выпярэджваюць многіх дзеячоў культуры фантазіяй, запалам). Беластоцкі каўчэг плыве. Нельга вымагаць, каб адразу прыбіў да кожнага берага. Але плыве і даплыве. Галоўнае, што ёсць.

За год працы падрыхтаваў дзве праграмы. (У дужках дадам, што каўчэг — аматарскі калектыў). Здабыў ужо II-ое месца на аглядзе студэнцкіх тэатраў у Варшаве. Апошняя праграма «Візэрункі» па зместу і духу наша свойская, пачэрпнутая дзесь з-пад Гайнаўкі, Міхалова ці Гарадка. Далікатная і поўная жоўці. Гэта сатыра рэфлексійная.

Дзяўчаты і хлопцы з «Аркі» (іх сямёра) — свежыя энтузіясты, хоць здаюць сабе справу, (як кожны, хто пабачыць «Арку»), што робячы сатырычную праграму, прышчэпленую ў беластоцкія ўмовы, рушылі цаліну. Энтузіязм зрадзіў «Арку Медыка» і энтузіязм павінен ёй доўга спадарожнічаць. (Новае і смелае нялёгка зацвярджаецца за ўрадніцкімі сталамі).

Галоўны гаспадар у «Арцы» (іншыя таксама галоўныя — каўчэг жа сімвал роўнасці) такі, так сказаць, Ной, а па-звычайнаму Юрка Цесляк, жвавы непаседа — рэжысёр тэатра, закладае выхад каўчэга на шырокія і далёкія воды Беласточчыны. Здабываць прыхільнікаў і прыяцеляў.

Час для «Аркі» цяпер гарачы. У акадэміі экзаменацыйная сесія, а потым — канікулы. Але вернуцца, збяруцца ў каўчэгу і выйдуць з багажом так патрэбнай нам сатыры у вялікае плаванне. (вл)



 

ГУМАР САТЫРА

## ВЫСОТНЫ ВЕРАБЕЙ

О, гэтага Вераб'я ведалі вераб'і цэлага горада! Яшчэ б, дык у яго было гняздо пад карнізам высотнага дома!

— Тут у вас ц-цудоўна! — захапляліся госці. — Такі ч-чароўны від, такое ч-чыстае паветра...

— Ш-шчыра кажучы, не ўяўляю, як бы я жыў ніжэй, — адазваўся гаспадар гнязда, прыгладжваючы рэдзенькі чубок.

І хто бы мог падумаць, што ён, як і шмат іншых вераб'ёў, нарадзіўся пад сялянскай страхой!



**— Цяпер урэшце перастанеш страсаць попел на дыван.**

## КУРЫНЫ ПОГЛЯД

**— З цябе карысці людзям мала, —**
**Карове курыца сказала,**
**— Ты дарма толькі ясі —**
**Вось яйка паспрабуй знясі.**

**П. ШЫБУТ**

## ХІТРАСЦЬ ГУЛЬТАЯ

У час экзаменацыйнай сесіі адзін гультай вырашыў здаваць экзамены з першай групай, спадзяючыся, што яму памогуць больш моцныя таварышы.

Прафесар крыху пачакаў, а затым сказаў:

— Хто згодны адказваць без падрыхтоўкі, таму стаўлю ацэнку на бал вышэй.

Гультай накіраваўся да стала прафесара і, падаўшы залікавую кніжку, сказаў:

— Стаўце мне тройку.

— Чаму?

— Я нічога не ведаю.

## УСЯЧЫНА



«1 + 1 = 1»

## БІЗНЕС НА ПАРНАГРАФІІ

**Толькі Порт - Саід можа параўнацца з Нью-Йоркам па выпуску парнаграфічных выданняў. 715 мільёнаў долараў гадавога прыбытку атрымліваюць кампаніі, якія займаюцца выданнем парнаграфічнай літаратуры, нудзісцкіх часопісаў, псеўданавуковых сексалагічных даследванняў і псеўдамастацкіх карцін. Гэты тавар прадаецца не з-пад палы ў цёмных завулках. Выдаўцы адкрыта рэкламуюць свой тавар у газетах і часопісах, а нядаўна пачалі рассылаць свае выданні наложным плацяжом школьнікам. Здабыўшы на пошце адрасы школьнікаў, якія атрымліваюць дзіцячыя ці маладзёжныя выданні, агенты кампаніі рассылаюць па гэтых адрасах сваю прадукцыю.**

## ШКАДА ЧАЛАВЕКА

Антон і Пятро — даўнія знаёмыя. Некалі, гадоў пяць назад, працавалі ў адной установе. Сябрамі не былі, але знаёмства з таго часу не забылася: то выпадкова сустрэнуцца на вуліцы, пагавораць, а то Пятро часцяком наведаецца да Антона.

І от Пятро пазычыў у Антона сто злотых. І пасля таго нібы забыў дарогу да Антона. Час ідзе, а грошай не аддае. Аднойчы Антон убачыў Пятра здалёк на вуліцы, але той зрабіў выгляд, быццам не заўважыў яго, і шмыгнуў у магазін.

Потым ужо іх агульны знаёмы сказаў Антону:

— А ты і не ведаў? Ён жа такі: пазычыць і не аддае. Добра яшчэ, што ты не багата даў яму, дык не вельмі шкадаваць будзеш.

— Грошай мне не шкада, — са смуткам адказаў Антон. — Шкада чалавека...

**Аркадзь Марціновіч**



**— Я вымушаны звярнуць вам увагу, што ў меню вы няправільна напісалі маё прозвішча...**

## МІЖ НАМІ

Тры рэчы асабліва нудныя: доўгі артыкул, пісьменнік без гумару і адпачынак з жонкай.

Тры рэчы асабліва рызыкоўныя: занадта прадпрыемлівы ўрач, абстрактнае мастацтва і адпускнік без жонкі.

## САМ СЯБЕ ПЕРАХІТРЫЎ

**На станцыі стаяў цягнік «Беласток — Уроцлаў». У вагон увайшоў дзядзька. «Людзей шмат, — думае ён, — але я іх абману».**

**Ён адкрыў пакрыўку чамадана і закрыў, а потым палез пад лаўку.**

**— Што вы шукаеце? — перапалохаліся пасажыры.**

**— Ды змяя з чамадана выпаўзла.**

**Людзей з вагона бы ветрам здула, а дзядзька лёг на лаўку і спіць. Ноччу прачнуўся і крычыць:**

**— Кандуктар, хутка Уроцлаў будзе?**

**— Які там Уроцлаў? — гаворыць кандуктар. — Учора нейкі дурань выпусціў змяю, цяпер адчапілі вагон. Вось і стаім у тупіку.**



**Мясцовы хуліган**

ПАВЕЛ ЦЫТАВІЦКІ

## МАЯ КАР'ЕРА

Аб тым, што наш дырэктар добры, прыемны чалавек, я даведаўся ў першыя ж дні сваёй працы. У суботу ён прыйшоў у наш цэх і сказаў:

— Чэсць! Як у вас з планам? Добра? Малайцы! А вы ведаеце, якая розніца паміж жанчынай шасці год, шаснаццаці, дваццаці шасці, трыццаці шасці і сарака шасці?

Цудоўны анекдот. Усе ад душы смяяліся. Праз тыдзень дырэктар прыйшоў зноў і сказаў:

— Чэсць! Як у вас з планам? Добра? Малайцы! А вы ведаеце, якая розніца паміж жанчынай шасці год...

Усе засмяяліся, толькі я адзін не зразумеў солі і пытаю паціху суседа.

— Ён жа ўжо расказваў гэты анекдот?

— Ён яго расказвае трэці месяц. Да гэтага быў іншы.

— Дык чаму вы тады рагочаце?

— І табе раім. Быў тут адзін, што не хацеў усміхнуцца, дык атрымаў такую характарыстыку, што ў дыверсантаў лепшыя бываюць...

Я страшна спалохаўся. «Ну, думаю, у наступную суботу я сваю памылку выпраўлю і звярну на сябе ўвагу».

І калі дырэктар прыйшоў, я, счакаўшы крыху, пакуль ён скажа «чэсць, як у вас з планам, добра малайцы, а вы ведаеце», ужо на словах «Якая розніца паміж» пырснуў з усёй моцы.

Дырэктар спыніўся на паўслове, па твары яго пачала пералівацца чырвань — ад інфрачырвонага адцення да фіялетавага, і выбег прэч.

Не, мяне не знялі з работы, бо з-за нейкіх махінацый выгналі дырэктара. Гэта было пачаткам маёй кар'еры.

Мяне палічылі чалавекам, які першы адважыўся раскрытыкаваць невыносныя манеры нашага дырэктара.

## АКЕНЦА ДУМАК

Калі мне было дваццаць год, я прызнаваў толькі самога сябе. У трыццаць год я гаварыў ўжо: «Я і Моцарт», у сорак: «Моцарт і я», а цяпер я ўжо гавару толькі «Моцарт».

Шарль Франсуа Гуно (1818 — 1893) — вядомы французскі кампазітар.

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Янкі Цялушэцкага** з Ляўкова, Гайнаўскага павета, змяшчаем савецкую папулярную песню

## Ты рядом со мной

**Вечерком,**
**За окном,**
**В синем небе мерцает звезда.**
**Каждый раз**
**В этот час**
**О тебе я тоскую всегда.**
**Вижу в сумерках я**
**В платье белом тебя,**
**Ты рядом,**
**Ты рядом со мной, дорогая,**
**И все ж далека, как звезда.**

**Без твоих**
**Голубых**
**Ясных глаз я прожить не могу,**
**Ты во сне**
**Снишься мне**
**Незабудкой на светлом лугу.**
**Только вот на беду**
**Нужных слов не найду,**
**Но песня,**
**Но песня тебе всё расскажет,**
**О чем я сказать не могу.**

**Час пробьет,**
**Ночь уйдет,**
**И погаснет звезда за окном...**
**Знаю я —**
**Никогда**
**В сердце ты не погаснешь моем.**
**И для нас вешним днем**
**Расцветет все кругом,**
**Мы рядом,**
**Мы рядом с тобою, родная,**
**Счастливой тропинкой пойдем.**

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458. Bitk L-3